



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

18 студзеня 2019 года №3 (1238) 18+


# У Мінску ўзнагародзілі самых яскравых актывістаў 2018 года

## Сярод іх жыхары Маладзечна і Вілейшчыны




старонка 20

На здымку злева направа: Міхаіл Міхалевіч, Алег Куралесаў, Юры Крывенькі, Ганна Холад, Валянціна Сідоркіна, Аляксандр Манцэвіч, Зоя Хруцкая, Віталь Качаткоў, Ірына Тархан. Фота Аляксандры ПАРАХНІ.



ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





Дзе ў Маладзечанскім раёне лепш не піць ваду з-пад крана

старонка 3

У Вілейцы новым кіраўніком райвыканкама прызначылі Алега Бегунца

старонка 2

## Ураджэнец Ілы можа ўзначаліць Пухавіцкі райвыканкам

ВІЛЕЙКА

Да гэтага часу **Віктар Каляда**, ураджэнец Ілы, кіраваў Лагойскім райвыканкамам.

Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Сярод іх – Віктар Каляда.

**Аддзел інфармацыі.**

## Маладзечна – на другім месцы ў вобласці па навагоднім упрыгажэнні

МАЛАДЗЕЧНА

У галасаванні на лепшае ўпрыгажэнне райцэнтра Міншчыны, што праводзіць у фэйсбуку ў групе Цэнтральны рэгіён, лідзіруе Барысаў. На другім месцы – Маладзечна.

За яго – тысяча сто лайкаў і каля 270 каментароў. На трэцім месцы – Салігорск.

Галасаванне скончылася 13 студзеня ўвечары. Цяпер члены журы аб'едуць райцэнтры і вызначаць пераможцу.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## Віляйчанін – вучань года Міншчыны

ВІЛЕЙКА

11 студзеня ў Дзяржынску ўзнагароджвалі фіналістаў конкурсу «Вучань года Мінскай вобласці-2018». Сярод пераможцаў ёсць вучань з Вілейкі.

Ганаровае званне «Вучань года Мінскай вобласці-2018» атрымаў вучань вілейскай сярэдняй школы №1 **Даніїл Каган**.

Па словах Даніїла, перамога стала нечаканасцю для яго. Хлопец цікавіцца дакладнымі навукамі: матэматыкай, фізікай, хіміяй. Далейшае жыццё плануе звязаць з інфарматыкай і радыёэлектронікай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маеце старыя вясельныя фотаздымкі? Паўдзельнічайце ў этнаграфічным праекце

МАЛАДЗЕЧНА

Цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёна і этнаграфічны клуб «Кола» сумесна з VEHA.by распачынае сацыяльна-культурны праект «Вясельны вянок Маладзечаншчыны».

Мэта праекта: захаваць традыцыйную культурную спадчыну маладзечанцаў праз збор і папулярызацыю вясельных сямейных архіўных здымкаў і вывучэнне вясельнай абраднасці Маладзечанскага рэгіёна.

Сямейныя архівы ўтрымліваюць шмат этнаграфічных і краязнаўчых звестак: знешнія праяўленні, асаблівасці абраднасці, мясцовую спецыфіку.

Тэма вяселля закранула кожную сям'ю рэгіёна, таму сямейныя фотаальбомы з'яўляюцца змястоўнай крыніцай для даследавання калектыўнай культурнай памяці Маладзечаншчыны. Цікавасць складаюць сямейныя здымкі да 1960 года ўключна.

**Арганізатары просяць далучыцца да праекта і зазірнуць у свой сямейны фотаальбом, адабраць вясельныя здымкі і пабачыць іх на выставе.**

**Патрабаванні да здымка:**

1. Здымкі з сямейнага архіва на вясельную тэму да 1960 года, зробленыя на тэрыторыі Маладзечанскага раёна.

2. Здымкі дасылаць на **kolaclubmolod@gmail.com** або прыносіць для сканавання на адрас: Маладзечна, вул. Лібава-Роменская, 71, 2 паверх, для метадыста па фальклоры **Вольгі Трубач** (кантактны нумар мтс (8-029) 53-53-105).

3. Пажаданыя параметры здымкаў: 600 dpi (JPG, TIF файлы).

4. Апісанне да здымка:

* назва месца, дзе зроблены здымак,

* дата, калі зроблены здымак

* подпісы людзей на здымку (імя, імя па бацьку, прозвішча, гады жыцця),

* кароткая гісторыя падзеі, адлюстраванай на здымку (па жаданні);

Здымкі можна дасылаць да 31.03.2018

*Увага! Калі тэхнічныя параметры здымка не будуць дазваляць выкарыстоўваць яго на выставе, то здымак будзе размешчаны на сайце этнаграфічнага клуба «Кола» **kolaclub.blogspot.com** у раздзеле «Вясельны вянок Маладзечаншчыны».*

**Аддзел інфармацыі.**



З трох магчымых спосабаў захоўвання ядзерных адходаў у Беларусі выбралі адзін. Не самы бяспечны.

Фота tut.by.

# Адходы паліва ад БелАЭС будуць захоўваць у Беларусі

**14 студзеня ў Астраўцы абмяркоўвалі дэталі захоўвання ядзерных адходаў. Вырашылі, што адходы будуць знаходзіцца ў Беларусі, бо Расія не гатовая іх прыняць. А эколагі лічаць, што на пабудову сховішчаў для іх трэба яшчэ два-тры мільярды еўра.**

АСТРАВЕЦ

У свеце ёсць розныя варыянты абыходжання з такімі рэчывамі: іх захоўваюць у адмысловых кантэйнерах, выкарыстоўваюць метад захоўвання ці перапрацоўваюць. Многія краіны пакуль не вызначыліся, што рабіць з адходамі. Гэта робіцца з разлікам на тое, што ў найбліжэйшай будучыні знойдуць больш бяспечныя спосабы абыходжання з адходамі, чым цяпер.

У Нацыянальнай акадэміі навук і Аб'яднаным інстытуце энергетычных і ядзерных даследаванняў «Сосны» вырашылі, што спачатку адпрацаванае паліва будуць каля дзесяці год захоўваць на назапашвальнай пляцоўцы ў Беларусі, потым павязуць на перапрацоўку ў Расію. Там з яго выдзеляць «карысныя прадукты» і вернуць для захоўвання ў Беларусь. Гэты варыянт выбралі як прыярытэтны, сказаў **Аляксандр Парфёнаў**, намеснік галоўнага інжынера Беларускай АЭС.

Разглядаліся яшчэ два варыянты. Але ва ўсіх прадугледжваецца, што адходы, перапрацаваныя ці не, будуць захоўвацца ў Беларусі – у прыпаверхневых збудаваннях.

Каб захоўваць адпрацаванае паліва да вывазу ў Расію, у Беларусі мусяць пабудаваць назапашвальную пляцоўку. У першасным праекце атамнай станцыі такой пляцоўкі не было. Гэта значыць, што найбліжэйшым часам спатрэбяцца дадатковыя грошы на новы праект і будаўніцтва. Але колькі гэта будзе каштаваць, прадстаўнікі БелАЭС і Мінэнерга не кажуць.

«Гэта камерцыйная тайна», – сказаў **Анатоль Бондар**, галоўны інжынер БелАЭС.

Таксама прадстаўнікі БелАЭС не адказалі на пытанне, дзе ў Беларусі будуць захоўвацца адпрацаваныя адходы. Вядома толькі, што разглядаюцца тры пляцоўкі.

**Ірына Сухій**, якая ўваходзіць у грамадскую раду грамадскага аб'яднання «Экадом», кажа, што стварэнне падобнай інфраструктуры для доўгачасовага абыходжання з адпрацаваным палівам у Швецыі, Бельгіі і Швейцарыі каштуе ад шасці да дзевяці мільярдаў еўра. Для Беларускай АЭС гэта можа абысціся ў два-тры мільярды еўра.

Выбраны варыянт абыходжання з адходамі – самы дарагі і самы небяспечны з пункту гледжання экалогіі. Пра гэта сказала **Настасся Дарафеева**, старшыня беларускай партыі «Зялёныя». Па яе словах, метад перапрацоўкі паліва, які збіраецца выбраць Беларусь, выкарыстоўваюць рэдка. Звычайна так робяць краіны, якія займаюцца вытворчасцю ядзернай зброі.

«Для Беларусі, якая не збіраецца выраблядь ядзерную зброю, узнікае пытанне, чаму гэты сцэнар выбіраецца як найбольш прыярытэтны», – сказала Дарафеева.

Яна і іншыя выступоўцы падкрэслівають, што ўсё яшчэ варта разгледзець варыянт, каб не запускаць атамную электрастанцыю.

Калі летам запрацуе першы блок атамнай электрастанцыі, ядзерныя адходы ў Беларусі з'явяцца праз чатыры гады. Паводле плана, цягам дзесяці гадоў яны будуць захоўвацца ў Беларусі, і толькі потым адпраўяцца на перапрацоўку ў Расію.

Але ў дакладзе, які абмяркоўваўся ў Астраўцы, напісана, што расійскія заводы пакуль не гатовыя прымаць беларускія адходы.

## У Вілейскім райвыканкаме – новы старшыня

ВІЛЕЙКА

**Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. 16 студзеня дэпутаты зацвердзілі кандыдатуру новага старшыні.**

Ім стаў **Алег Бегунец**, які раней быў першым намеснікам старшыні, начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Старадарожскага райвыканкама.

Алег Паўлавіч у 1989 годзе скончыў Пасекскую сярэднюю школу, пасля – Беларускі аграрна-тэхнічны ўніверсітэт, Інстытут кіравання агратэхнічным комплексам, Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце. Пачынаў працаваць кіроўцам у калгасе, быў аўтамеханікам, інжынерам.

Ад 1999 года – начальнік участка транспарту арганізацыі «Старадарожскае райаграпрамзабеспячэнне», ад 2004 працаваў на старадарожскім райаграсэрвісе: спачатку – інжынерам, пасля намеснікам дырэктара па механізацыі. Затым быў дырэктарам СВК «Асвіца», інжынерам у санаторыі.

**Паводле сайта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**



Фота з сайта Старадарожскага райвыканкама.


Фота GoGetNews.

Водаправодная вада на Маладзечаншчыне бяспечная ў эпідэміялагічных адносінах.

# Дзе ваду з-пад крана лепш не піць

**У Маладзечанскім раёне сёлета плануюць правесці праектныя работы для будаўніцтва дзвюх станцый абезжалезвання вады для Заскавічаў, Лебедзева, Пятроўшчыны, Алёхнавічаў і вуліцы Трэцяга ліпеня ў Радашкавічах.**

МАЛАДЗЕЧНА

Гэтыя работы выконваюць у адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай «Камфортнае жыллё і спрыяльнае асяроддзе». Праектуюць інжынерныя сеткі да раёна індывідуальнай забудовы ў Сасновым Бары. У перспектыве гэта дазволіць падключыць да гарадскіх сетак усіх жыхароў пасёлка і інфекцыйную бальніцу і вырашыць праблему павышанага ўтрымання жалеза.

Цяпер у водаправоднай вадзе жыхароў Заскавічаў, Гарадка, Лебедзева, Хажова, часткова Алёхнавічаў, Клімантаў павышаны ўзровень жалеза. Ім варта выкарыстоўваць бутыляваную ваду. Ці выкарыстоўваць простыя фільтры, што зніжаюць утрыманне жалеза. Можна ўжываць водаправодную ваду, калі адстаяць яе не менш за тры гадзіны.

### Вада ў калодзежах

Лабараторныя даследаванні пацвярджаюць, што калодзежная вада не мае гарантаванай якасці.

Летась 42% даследаваных проб вады з шахтных калодзежаў не адпавядалі гігіенічным патрабаванням. Быў завышаны ўзровень нітратаў і хларыдаў.

Раім уласнікам дэцэнтралізаваных крыніц пітнога забеспячэння рэгулярна правяраць якасць вады ў акрэдытаваных лабараторыях.

### Што з жалезам у вадзе па раёне

Па ўтрыманні жалеза 53,6% даследаваных проб артэзіянскай вады з крыніц цэнтралізаванага водазабеспячэння перавышаюць гігіенічны нарматыў. На ўтрыманне жалеза ўплываюць прыродныя асаблівасці, павышаны ўзровень пагаршае спажывецкія якасці.

У водаправоднай сетцы якасць вады лепшая. Па завышаным утрыманні жалеза не адпавядала 12,2% даследаваных проб з камунальных водаправодаў. Справа ў тым, што артэзіянская вада з водазабораў «Крыніца» і «Гелянова» ў Маладзечне, Чысці, таварыства «Забудова», пас. Беразінскае, асобных свідравін Раёўкі, Груздава, Дубрава, Алёхнавічаў, Краснага праходзіць ачыстку на станцыях абезжалезвання.

Летась значна палепшылі якасць вады для Радашкавічаў, таму што пачалі працаваць тры станцыі абезжалезвання. Яны ачышчаюць артэзіянскія свідравіны Рогава і Радашкавіцкага керамічнага завода, вуліцы Серабранка, раёна індывідуальнай забудовы-1.

У 2018 годзе пачалі працу станцыі абезжалезвання ў Палачанах і Красным.

### Колькі проб даследавалі

Агулам летась Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі даследаваў 2323 пробы пітной вады па мікрабіялагічных паказчыках. У тым ліку 299 – з крыніц цэнтралізаваных сістэм водазабеспячэння.

Усе пробы з артэзіянскіх свідравін адпавядалі гігіенічным нарматывам па мікрабіялагічных паказчыках. Гэта пацвярджае бяспеку водаправоднай вады ў эпідэмадносінах.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст (загадчык аддзялення) камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

## Як бяспечна купацца ў палонках

**Набліжаецца Вадохрышча, падчас якога многія трымаюцца традыцыі акунацца ў палонках.**

Каб гэты абрад прайшоў бяспечна, трымайцеся наступных правілаў бяспекі:

1. Акунацца варта ў адмыслова абсталяваных палонках ля берага, пажадана паблізу ратавальных станцый, пад наглядам ратавальнікаў.

2. Перад купаннем у палонцы неабходна разагрэць цела, зрабіць размінку, прабежку.

3. Да палонкі трэба падыходзіць у зручным, не слізкім абутку, каб захаваць адчувальнасць ног. Лепш выкарыстоўваць чаравікі ці ваўняныя шкарпэткі.

Можна выкарыстоўваць адмысловыя гумовыя тапкі, якія абараняюць ногі ад вострых камянёў, а таксама не даюць слізгаць на лёдзе. Ідучы да палонкі, памятайце, што дарожка можа быць слізкай.

4. Акунацца лепш за ўсё па шыю, не мачыць галаву, каб пазбегнуць рэфлекторнага звужэння сасудаў галаўнога мозга.

Ніколі не кідайцеся ў палонку наперад галавой.

5. Пры ўваходзе ў ваду першы раз старайцеся хутка дасягнуць патрэбнай вам глыбіні, але не плавайце.

6. Не стойце ў палонцы больш за адну хвіліну, каб пазбегнуць агульнага пераахаладжэння арганізма.

7. Пасля купання разатрыцеся махровым ручніком і надзеньце сухую вопратку.

8. Выпіце гарачага чаю, лепш за ўсё з ягад, садавіны і агародніны з тэрмаса.

9. У месцах купання нельга:

• купацца нецвярозым;

• ныраць і плаваць пад вадой, падаваць крыкі лжывай трывогі;

• забруджваць і засмечваць водныя аб'екты і берагі;

• прыводзіць з сабой сабак і іншых жывёл;

• збірацца групамі на лёдзе каля краю палонкі;

• заходзіць за агароджы.

10. Дзецям можна купацца толькі з дарослымі.

**Валянціна СОПАТ,**
**Маладзечанскі ГРАНС.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**57 000**

педагогаў працуе сёлета ва ўстановах дашкольнай адукацыі.

**Паводле Нацстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.01 | 17.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1569 | 2.1556 |
| Еўра | 2.4718 | 2.4582 |
| Злоты, 10 | 5.7507 | 5.7318 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2166 | 3.2282 |
| Грыўня, 100 | 7.6744 | 7.6923 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 9.01 | 16.01 |
| Еўра | 2.4600/2.4780 | 2.4480/2.4730 |
| Долар ЗША | 2.1530/2.1700 | 2.1520/2.1720 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 9.01 | 16.01 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | 18,45 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,10 | 3,85 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | 6,95 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | 10,00 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | 4,70 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | 3,60 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 4,90 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | 14,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | 1,10 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | 1,90 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 5,20 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,05 | 2,05 |
| Агуркі, 1 кг | 5,70 | 4,00 |
| Бульба, 1 кг | – | – |
| Буракі, 1 кг | – | – |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | 1,50 |
| Капуста пекінская, 1 кг | – | 1,80 |
| Морква, 1 кг | 0,90 | 0,90 |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | 4,00 |
| Перац, 1 кг | 6,70 | 6,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | 5,00 |
| Ананас, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | 3,40 |
| Бананы, 1 кг | – | 2,50 |
| Вінаград, 1 кг | 3,20 | 3,20 |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | 3,60 |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | – | 3,00 |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,40 | 3,00 |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | 2,80 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | 25,00 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | – | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## 12 студзеня на Маладзечаншчыне былі два пажары з-за печаў

МАЛАДЗЕЧНА

З-за няспраўных печаў і іх няправільнага выкарыстання 12 студзеня ўзніклі пажары на Маладзечаншчыне. У адным выпадку жылы дом згарэў цалкам, у другім агонь моцна пашкодзіў дом.

У 8:20 выратавальнікам патэлефанавалі жыхары вёскі Касцюшкі Красненскага сельсавета.

У палаючым доме людзей не было. Дом выкарыстоўваўся як дачны. Суседзі паведамілі, што гаспадыня дома жыве ў Мінскім раёне і апошні раз была ў кастрычніку 2018 года.

Але напярэдадні многія жыхары вёскі бачылі, як унук гаспадыні, дзевяцікласнік, з кампаніяй маладых людзей прыязджалі ў дом.

Спецыялісты схіляюцца да таго, што пажар здарыўся з-за няспраўнай печы.

Пасля 17 гадзін адбыўся пажар у жылым доме ў вёсцы Белева Гарадоцкага сельсавета.

Гаспадар дома быў у Дзяржынску. Аб трагедыі яму паведамілі жыхары бліжэйшых дамоў, а ён у службу МНС.

Дом згарэў цалкам. Ён не прыдатны для жылля, распавяла карэспандэнту старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага РАНС **Марына Ганчарова**.

МНС нагадвае: цяпло павінна быць бяспечным.

Карыстаючыся пячным ацяпленнем, неабходна выконваць шэраг правілаў:

• пры распальванні не выкарыстоўваць лёгкаўзгаральныя і гаручыя вадкасці;

• не пакідаць адкрытымі топачныя дзверцы і печ, якая паліцца, без нагляду;

• наяўнасць перад топкай ліста абавязковая;

**• паліць рэкамендуецца два-тры разы на дзень і не больш чым па паўтары гадзіны; спыняць паленне за дзве гадзіны да сну;**

• не сушыць на печы сырыя рэчы і дровы.

Але і нельга забываць, што гэта толькі адна частка складніка бяспекі. Ацяпляльная печ павінна быць змантаваная, уладкаваная па ўсіх правілах.

У выпадку надзвычайнай сітуацыі тэлефанаваць на нумары 112 або 101.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чысцінцы схавалі грошы і забыліся куды. Шукала міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

Жыхары Чысці перахавалі грошы ў доме, а затым забыліся куды і заявілі пра знікненне сродкаў. Схаваныя дома 13 500 рублёў прыйшлося шукаць супрацоўнікам міліцыі.

Пра інцыдэнт у аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паведаміў 49-гадовы мясцовы жыхар. Паводле яго слоў, апошні раз канверт са зніклымі грашыма ўладальнікі бачылі 1 студзеня. На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група.

Падчас агляду дома міліцыянеры знайшлі зніклыя грошы ў шафе ў суседнім пакоі. Аказалася, што буйную суму гаспадары перахавалі і забыліся.

Сям'я падзякавала следча-аператыўнай групе за дапамогу ў пошуку грошай, спагадлівасць і неабыякавае стаўленне.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Жыхар Вілейшчыны незаконна ўпаляваў зайца

ВІЛЕЙКА

Работнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі 4 студзеня каля 23:00 затрымалі жыхара Вілейшчыны, які з дапамогай гладкаствольнай стрэльбы незаконна забіў зайца-русака ў паляўнічых угоддзях Вілейскага таварыства паляўнічых і рыбаловаў у забаронены час, без дазволу і пуцёўкі.

Парушальніку пагражае штраф ад 510 да 1 275 рублёў. У яго таксама могуць забраць зброю і пазбавіць права палявання.

Ён павінны будзе кампенсаваць шкоду, нанесеную навакольнаму асяроддзю, у памеры 510 рублёў і кошт зайца – 51 рубель.

Калі вы бачыце выпадкі парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, тэлефануйце на нумар 8 01797 50740 у Мядзельскую міжраённую інспекцыю або на тэлефон даверу Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце 8 017 39 00000 або 102.

**Раман ЛЕСІН, Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы расліннага і жывёльнага свету.**



Следчыя правяраюць прадпрыемства, дзе бык смяротна пакалечыў работніка.

# На прадпрыемстве бык пакалечыў работніка. Мужчына памёр у бальніцы

**Пра здарэнне «Рэгіянальнай газеце» расказала афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці Таццяна Беланог.**

МАЛАДЗЕЧНА

– Увечары 5 студзеня на прадпрыемстве ў Маладзечне бык траўмаваў мужчыну. Пацярпелага даставілі ў бальніцу ў Маладзечне. 8 студзеня ён памёр.

Па словах **Таццяны Беланог**, РАСК Маладзечна праводзіць праверку.

Следчыя гутараць з відавочцамі, вывучаюць дакументы прадпрыемства, умовы працы. Канчатковая прычына смерці 51-гадовага работніка будзе вядомая пасля медыцынскай экспертызы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гаспадар прачнуўся ад дыму: на Вілейшчыне гарэў жылы дом

ВІЛЕЙКА

Пра пажар у вёсцы Вітаўцы Даўгінаўскага сельсавета вілейскім выратавальнікам паведамілі 12 студзеня каля 7:20. Калі спецыялісты прыехалі на месца, языкі полымя ўжо прарываліся з-пад даху.

Пажар заўважыў гаспадар. Мужчына якраз прыехаў у Вітаўцы на леціпчча. Увечары 11 студзеня выпаліў рускую печ і лёг спаць. Раніцай прачнуўся ад таго, што ў доме пахне дымам.

Гаспадар зайшоў на кухню, убачыў, што там шмат дыму, а на печы – полымя. Выліў вядро вады на печ, але гэта не дапамагло. На дапамогу прыйшлі суседзі. Некаторы час людзі спрабавалі самастойна патушыць пажар, але не змаглі.

Тады суседка выклікала выратавальнікаў. Агонь знішчыў перакрыцці, абвугліліся сцены.

– На печы гаспадар складаў старыя мяшкі і адзенне. Гэтыя рэчы і загарэліся, – распавёў карэспандэнту інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзмітры Кляшняк**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне каля пуцеправода аўтобус сутыкнуўся з фурай

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 15 студзеня каля 11:30.

Маршрутны гарадскі аўтобус рушыў па Лібава-Роменскай. Каля пуцеправода, ля аўтазапраўкі «А 100», ён паваротваў направа.

Насустрач яму ехала фура маркі «МАЗ». Кіроўца паваротваў налева. Атрымалася, што абодва кіроўцы паваротвалі ў кірунку на «Бярозку».

Як паведамляюць відавочцы, хутчэй за ўсё, кіроўца фуры не ўлічыў вугал заносу прычэпа. Таму яны сутыкнуліся на скрыжаванні.

Гэта скрыжаванне не рэгулюецца святлафорам. Многія маладзечанскія кіроўцы скардзяцца, што яно вузкае для буйнагабарытных машын.

**Аддзел інфармацыі.**

## Амаль тону брагі ў хляве знайшла маладзечанская міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС знайшлі цэх самагонаварэння ў вёсцы Скавародкі Маркаўскага сельсавета.

Вытворчасць мясцовы жыхар наладзіў у хляве. Па аператыўных дадзеных, у ходзе агляду гаспадарчай пабудовы на прыватным падворку знайшлі самагонны апарат і 941 літр гатовай брагі.

Каб вывезці абсталяванне для вырабу спіртнога, аператыўнікам спатрэбілася дапамога мясцовага сельгаспрадпрыемства. Брагу, якую захоўвалі ў металічнай бочцы ў хляве, знішчылі.

Гаспадаром «бізнесу» аказаўся непрацуючы 29-гадовы мясцовы жыхар

Па словах жонкі, самагонны апарат ён паставіў у хляве ў канцы снежня мінулага года. Вядома, што фігурант раней ужо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за аналагічныя правапарушэнні. Па дадзеным факце праводзіцца праверка.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Зніклага вілейчука шукалі ў лесе і закінутых будынках. Пакуль не знайшлі

ВІЛЕЙКА

У суботу, 12 студзеня, у Вілейцы шукалі зніклага 21 снежня мінулага года **Сяргея Балваку**.

У пошуках удзельнічалі пошукавы атрад «Анёл», супрацоўнікі Вілейскага РАУС і МНС.

Удзельнікі пошукаў агледзелі лес і закінутыя будынкі. Аднак зніклага пакуль не знайшлі.

«Анёл» дзякуе ўсім, хто далучыўся да справы.

15 студзеня мы звязаліся з Вілейскім РАУС. Там паведамілі, што мужчыну па-ранейшаму не знайшлі. Пошукі працягваюцца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Вучыцеся дызайну ў прыроды і спасцігайце навуку пра колер

## Дызайнер – пра тое, як абсталяваць кватэру, у якой хочацца жыць

**У зале – сервант, поўны хрусталю, шпалеры ў кветачкі і люстра з ледзяшамі. На кухні – некалькі разоў пафарбаваны буфет і табурэткі…**

Піша Ксенія ДУРОВІЧ.

Інтэр'еры 1960-70-х разнастайнасцю не адрозніваліся. Асаблівым шыкам, паказчыкам заможнасці была хіба што корпусная мэбля з Румыніі ці Усходняй Германіі.

Як змяніліся падыходы да інтэр'еру сёння? Пра тое, як абсталяваць кватэру, у якой хочацца жыць, мы пагутарылі з **Арынай Філістовіч**, нашай зямлячкай, ураджэнкай Вілейшчыны, дызайнерам інтэр'ера, якая цяпер працуе ў Санкт-Пецярбургу.

**Арына, распавядзіце пра тое, якія тэндэнцыі ў інтэр'еры актуальныя сёння?**

Варта больш глядзець на тое, які цудоўны дызайнер – прырода. Бярыце ў яе формы і колеры для дызайну сваёй кватэры. Ужо некалькі год актуальная тэкстура любога дрэва і раслінныя ўзоры. Не бойцеся, што яны выйдуць з моды праз год.

Не абмяжоўвайцеся адной люстрай. Хай будзе больш крыніц святла. Патрэбныя бра, настольная лямпа, таршэр. А каб пакой падаваўся больш прасторным, выкарыстоўвайце люстэркі.

**Мы ўсё кажам пра абстаноўку. А што скажаце пра шпалеры? Кветачкі з нашага дзяцінства ўжо зусім не актуальныя?**

Да шпалераў цяпер увогуле іншыя падыходы. Раней імі імкнуліся заклеіць усе сцены, а заадно і столь. Цяпер гэта не абавязкова. Яркімі шпалерамі можна абклеіць адну, акцэнтную, сцяну ў пакоі. Кветачкі з дзяцінства? А чаму і не? Галоўнае, не злоўжываць. Лепш чаргаваць рулон з малюнкам з больш спакойным, аднатонным.

**А калі зусім без шпалераў? Ці не ператворыцца кватэра ў падабенства нейкай грамадскай установы?**

Не. Па-ранейшаму вельмі папулярнай альтэрнатывай шпалерам з'яўляецца афарбоўка. Часцей гэта не аднатонны колер, а спалучэнне некалькіх. Вось, напрыклад, адзін лайфхак: наклейце на сцяну ўзор з малярнай стужкі, пафарбуйце сцяну валікам. Хай высахне. А пасля стужку здыміце. Атрымаецца экстраардынарна і па-сучаснаму.

Цяпер шмат розных вінілавых налепак: прыгожыя і ў выкарыстанні вельмі простыя. Яны выдатна падыходзяць для дэкору дзіцячых пакояў. Выбар неверагодны: для дзяўчынак можна выбраць фей з крыльцамі, для хлопчыкаў – машыны і самалёты. Дарослыя таксама змогуць знайсці падобныя налепкі і для свайго пакоя: ёсць з музычнымі інструментамі, кнігамі, жывёламі, любімымі маркамі аўто. Адзінае, памятайце: налепкі варта выкарыстоўваць на аднатонных сценах.

Калі вы за экалогію, то яшчэ адна альтэрнатыва шпалерам – драўляныя панэлі. Так, яны не танныя і для ўстаноўкі часта патрэбны спецыяліст. Улічыце гэта.

**Пра сцены пагутарылі. Цяпер давайце пра падлогу.**

Маеце грошы і хочаце, каб падлога праслужыла гадоў 50 – выбірайце дрэва. Яшчэ адзін плюс такой падлогі – яна практычна заўсёды цёплая. Танней абыдзецца ламінат. Тут можна абраць любыя колеры. Для дзіцячых пакояў бацькі часта выбіраюць ламінат з малюнкамі. Яго проста пакласці і служыць ён звычайна доўга. Аднак ламінат дрэнна трымае цяпло і баіцца вільгаці.

**А што думаеце пра лінолеум?**

Бюджэтна і ўніверсальна. За ім проста даглядаць. Цяпер вельмі багаты выбар яго колераў. Калі вы маладая сям'я з малымі дзецьмі і невялікім даходам, то лінолеум – тое, што трэба. Падгадуеце дзяцей, назбіраеце грошай – тады можна падумаць пра ламінат альбо дрэва.

**Многія з нас жывуць у кватэрах, квадратныя метры ў якіх жадаюць большага. Раскажыце, што варта ўлічваць уладальнікам невялікіх апартаментаў?**

Ёсць набор, так бы мовіць, класічных парадаў. Напрыклад, мае калегі раяць замест невысокіх тумбачак выкарыстоўваць высокія стэлажы. Па магчымасці не ставіць, а вешаць прадметы інтэр'ера. Так, у невялікім пакоі лепш выкарыстоўваць насценнае бра, чым падлогавы таршэр. Кожную прастору старайцеся выкарыстаць па максімуму. Напрыклад, у прамежку ад шафы да столі можна паставіць прыгожа дэкараваныя каробкі і пакласці ў іх нейкія рэчы. Ложак лепш выбіраць такі, каб пад ім былі вялікія шуфляды для пасцельнай бялізны. Часопісны столік набывайце на колах: ён мабільны. Трэба – падкоціце да ложка. Будзе перашкаджаць – адкоціце да канапы.

**Што параіце ў выбары мэблі?**

Цяжка раіць, не ведаючы вашага матэрыяльнага становішча і пераканання. Для кагосьці прыярытэт – мэбля коштам у паўгадавы заробак. Але яна з драўлянага масіву, экалагічная і праслужыць доўга. Хтосьці наконт мэблі ўвогуле не замарочваецца. Лічыць, што надзіманы матрац на падлозе – гэта таксама стыльна, а грошы лепш патраціць на адпачынак ля мора.

**І апошняе пытанне. Якія фішкі ў інтэр'еры падабаюцца менавіта вам, нягледзячы на моду і меркаванні грамадскасці?**

Ёсць некалькі такіх момантаў. Люблю вялізныя вазы з кветкамі або засушанымі кампазіцыямі. Толькі стаўлю іх не на стале, а на падлозе. Люблю кніжныя стэлажы на ўсю сцяну. Фотаздымкі ў рамачках цярпець не магу. А вось просценькія фотасушкі ў інтэр'еры – гэта маё. А яшчэ ў афармленні сваёй кватэры карыстаюся цацкамі з уласнага дзяцінства. У мяне на ложку сядзіць вялікая лялька, падораная бацькам у канцы васьмідзясятых. А звесіўшы лапку са стэлажа, за маімі творчымі пошукамі назірае мяккі мядзведзь. •






# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Chrysler Neon, 1995 г.в., кожны дзень на хаду, ёсць нюансы, абмяняю на іншы а/м або прадам. 2 600 руб., торг. Т. (8-033) 3668181, (8-025) 7639296.*

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в, 1,8 бензін, нядорага, добры стан. Т. МТС (8-029) 5689198.*

• Нісан-Прымера, 1995 г.в., 2,0 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-Меган, 1998 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто, любы стан і год, з любой праблемай. Дорага. Т. (8-033) 6323283.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Мінску, р-н Лошыца, 4 паверх. Т. (8-044) 7908932*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Віленская, 31, агульная 48,7, жылая 28,4, с/в раздзельны, 3 паверх цаглянага дома. Т. (8-029) 8165933.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Драздовіча, 3 паверх. Т. (8-029) 2716116.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольнай альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• Дом у а.г.Мацькаўцы Вілейскага р-на. Нядорага. Т. (8-029)6110737.*

• Дом у Гаеўцах Палачанскага сельсавета. Т. (8-029) 5071096.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• «Камп'ютары і спадарожнікавыя антэны». Абслугоўванне. Рамонт. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750 Т. (8-033) 3494488.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• МТЗ-80 + с/г тэхніка. Тэрмінова! Т. (8-044) 5542855.

• Трактар Т-25, рухавік Д-21, касілка, капалка. Т. (8-029) 7892846.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Секцыя «Вікторыя»; арэнбургская пуховая хустка, новая. Нядорага. Т. МТС (8-029) 5719435.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза. Т. (8-0176) 726332.*

**Іншае**

• Бульба харчовая і кармавая. УАЗ-3303. Брусовачнік. Шчэпкадрабілка. Даільны апарат. Т. (8-029) 9995038.

• Гной 60 кг, 2 руб. Т. (8-029) 5606607.*

• Дровы. Дастаўка. Т. (8-02*9) 8740790.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*



**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5606607, (8-029) 3796140.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю падпрацоўку. Досвед: усе віды будаўнічых, аддзелачных работ; малярныя работы, работы з гіпсакардонам, тынкоўка, ламінат, вагонка, сайдынг, афарбоўка і г.д. Т. Вэлком (8-029) 5526667.*





# Вілейскія скрыпачы перамаглі ў некалькіх міжнародных конкурсах

ВІЛЕЙКА

**Ансамбль скрыпачоў «Кампліментт» дзіцячай школы мастацтваў атрымаў дыплом першай ступені на міжнародным інтэрнэт-конкурсе DIGI-STARS WINTER of CULTURE CARAVAN у польскім Воліне.**


Фота забяспечана Таццянай ЖУК.

Узорны ансамбль скрыпачоў «Кампліментт».

Кіраўнік – педагог **Таццяна Жук**, канцэртмайстар – **Святлана Ражко**.

Яшчэ адзін дыплом лаўрэата першай ступені віляйчанам уручылі на міжнародным конкурсе STARS у Санкт-Пецярбургу.

Ад пятага да восьмага студзеня ў Мінску ладзілі пяты міжнародны фестываль «Славянскія сустрэчы». Яшчэ адзін дыплом першай ступені – вынік удзелу вілейскіх скрыпачоў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Бяспечнае карыстанне газам у быце

МОЛОДЕЧНОГАЗ

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары захоўвалі самыя элементарныя правілы, выкладзеныя ў інструкцыі па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

У сувязі з паніжэннем тэмпературы вонкавага паветра павышаецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў дымавых і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Кожны год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

Летась у кастрычніку адбыліся два няшчасныя выпадкі з грамадзянамі пры карыстанні газам у побыце. 28 кастрычніка ў спецыялізаванае падраздзяленне ВУ «Бярозагаз» паступіла інфармацыя аб атручэнні чадам па адрасе: Бярозаўскі раён, в. Ястрабель, вул. Лясная, д. 24. У доме знойдзенае цела ўласніка дома без прыкмет жыцця. Па прыбыцці спецыялізаванага падраздзялення ВУ «Бярозагаз» на месца здарэння было выяўлена, што кран на апусканні да газавага катла АОГВ-11.6 перакрыты, вентыляцыйны канал заткнуты анучай. Пры абследаванні разам з работнікамі Следчага камітэта адлучылі дымаадводны патрубак ад катла і дымавога канала. У дымаадводным патрубку выяўленыя староннія прадметы (рыззё). Меркавана, што смерць наступіла ад атручэння чадам. Вядзецца расследаванне.

Зноў жа летась 28 кастрычніка ў спецыялізаванае падраздзяленне ВУ «Дзяржынскгаз» паступіла паведамленне ад грамадзянкі Ігнатовіч Е.І. аб паху газу на кухні па адрасе: г. Дзяржынск, вул. Крутагорская, д. 43. Мабыць, з атручэннем чадам дастаўленае ў Дзяржынскую ЦРБ дзіця (унук гаспадыні) 2012 г.н. у здавальняючым стане.

Брыгада спецыялізаванага падраздзялення, якая прыбыла па ўказаным адрасе, у памяшканні кухні выявіла канцэнтрацыю чаду. Акт тэхнічнага стану вентыляцыйных і дымавых каналаў адсутнічаў, цяга ў дымавым і вентыляцыйным каналах адсутнічала. Прычыны і абставіны здарэння высвятляюцца, вядзецца расследаванне ва ўстаноўленым парадку.

Пры спальванні газавага паліва, калі недастаткова паступае кіслароду (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя), то з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца чад (СО), які пры працы газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. **У зімовы перыяд гэта можа прывесці да абмярзання агалоўкоў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх заркоўвання і як вынік – пранікненне чаду ў памяшканне.** У выніку можа адбыцца атручэнне чадам.

Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць чад? Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары чаду.**

Усталюйце **дэтэктары чаду (датчык СО)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу чад не выяўляюць.**

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, **НАГАДВАЕМ:**

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, **а ў зімовы перыяд рэгулярна аглядаць агалоўкі ўказаных каналаў, каб папярэдзіць іх абмярзанне;**
- дымавыя і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

– **ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны зробленыя, – перад ацяпляльным сезонам.

– **праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны зробленыя: цагляныя – не радзей за 1 раз у 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў жараўстойлівага бетону – не радзей за 1 раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

**Пры эксплуатацыі газавыкарыстальнага абсталявання ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- пакідаць без нагляду ўключаныя газавыя пліты, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшканняў;
- пакідаць адкрытымі вентылі балонаў, краны, якія знаходзяцца перад газавыкарыстальным абсталяваннем і на ім, пасля таго, як закончыце карыстацца газавым абсталяваннем;
- самавольна падключаць, адключаць, перастаўляць, разбіраць і рамантаваць газавыкарыстальнае абсталяванне;
- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў работу прыбораў;
- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;
- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавыкарыстальнае абсталяванне;
- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;
- выкарыстоўваць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавыкарыстальнага абсталявання;
- карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў;
- уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы.

**За парушэнне «Правілаў карыстання газам у быце»**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.

**ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100 008 077

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Яслі за 500 еўра і лясныя дзіцячыя садкі

## Як выхоўваюць дашкольнікаў у Германіі

**Ва ўзросце ад трох да шасці гадоў маленькі жыхар Германіі, як і большасць яго беларускіх аднагодкаў, наведвае дзіцячы садок. Калі ж бацькі вельмі занятыя, ёсць іншыя варыянты.**

### Ад двух месяцаў – у яслі

У яслі дзяцей тут бяруць ад двух месяцаў. Імкнуцца спрыяць гарманічнаму развіццю дзіцяці, развіваюць маторыку – рухальную актыўнасць. Выхаванцаў прывучаюць да гаршка, кладуць спаць у пэўны час і кормяць у адпаведнасці з узростам. Калі жанчына корміць дзіця грудным малаком, яна можа прыносіць яго сцэджаным у бутэлечку.

У яслях часам ладзяць дні адкрытых дзвярэй, каб бацькі маглі пабыць з дзецьмі ў групе нейкі час, паназіраць, як выконваюць рэжым дня.

У яслі дзяцей возьмуць толькі ў тым выпадку, калі бацькі прынясуць даведкі з месца работы – пацвердзяць сваю занятасць.

### Месцаў у яслях не хапае

Паколькі ў Германіі шмат бацькоў, заклапочаных кар'ерай, яслі тут даволі папулярныя. Але былыя жыхары нашага рэгіёна, якія цяпер жывуць у Германіі, адзначаюць, што месцаў часта не хапае. Чакаць яго даводзіцца доўга, таму часам жанчыны запісваюць дзіця ў яслі адразу пасля нараджэння ці ўвогуле яшчэ будучы цяжарнымі.

Калі месца вельмі патрэбнае, а яго няма, бацькі звяртаюцца ў органы апекі. Кажуць, яны дапамагаюць.

Яслі ў Германіі платныя. Кошт залежыць ад рэгіёна. Розніца вялікая – ад 50 да 500 еўра на месяц. Сем'і з нізкім даходам маюць права плаціць менш. Часам такім дзецям дазваляюць наведваць яслі бясплатна.

### Дзіцячыя садкі: месцаў мала, ахвотных шмат

І дзіцячыя сады, і яслі, як і ў нас, для наведвання не абавязковыя. Аднак большасць бацькоў усё ж выбіраюць гэтыя ўстановы. Сітуацыя з садкамі, як і з яслямі, – месцаў мала, ахвотных шмат. Дзеці праводзяць у садку некалькі гадзін: або ад 8:00 да 12:00, або ад 13:00 да 17:00. Можна застацца на ўвесь дзень – ад 8:00 да 17:00. Але гэта, вядома, і каштаваць будзе даражэй.

Каб запісаць дзіця ў садок, трэба мець пуцёўку ад органаў апекі. Можна і без яе, але гэта будзе дорага. А яшчэ трэба грунтоўнае пераканання ад бацькоў, чаму дзіцяці патрэбны садок.

### Каго ў садок павінны ўзяць хутчэй

Хутчэй за іншых пуцёўку на наведванне дзіцячага садка атрымліваюць сем'і, дзе гадуюць дзяцей з затрымкамі псіхічнага або моўнага развіцця, з праблемамі з маторыкай і з паводзінамі. Ва ўсіх выпадках патрабуецца заключэнне доктара.

Ёсць і сацыяльныя паказчыкі: калі сям'я даглядае невылечна хворага, гадуе дзіця з інваліднасцю, калі дзіця жыве ў дрэнных умовах або мае толькі аднаго з бацькоў.

Паказчыкам для прывілею на наведванне садка будзе і нездаровая атмасфера дома: гвалт, злоўжыванне ў сям'і алкаголем, наркотыкі.

Калі мама цяжарная другім дзіцем, цяжарнасць працякае цяжка, а ў сям'і ёсць дзіцядашкольнік, доктар таксама можа даць даведку, каб дашкольніка хутчэй прынялі ў садок. Непаўнагадовасць мамы – яшчэ адзін сацыяльны паказчык.

Цэны на дзіцячыя садкі залежаць ад месца пражывання, даходаў бацькоў і колькасці дзяцей у сям'і. Сумы ў розных гарадах розныя. Напрыклад, у Берліне для сям'і з сярэднім месячным даходам (3750 еўра) садок каштуе 30 еўра на адно дзіця і 58 – на дваіх. У Брэмене – 146 і 181 еўра адпаведна.

### Замест цацак – шышкі і палачкі

Заняткі ў садках ладзяць у гульнявой форме. Дзяцей вучаць кантактаваць з аднагодкамі, шмат увагі надаюць развіццю мовы і вобразнага мыслення.

Садкі часцей належаць або прыватным асобам, або грамадскім арганізацыям. Радзей – дзяржаве.

Нямецкая фішка дашкольнай адукацыі – лясныя дзіцячыя садкі. Сёння ў Германіі іх больш за тысячу. Амаль увесь час дзеці бавяць на свежым паветры. Выхавальнікі вучаць хлопчыкаў і дзяўчынак шанаваць расліны і жывёл, распавядаюць пра навакольнае асяроддзе, даследуюць прыроду, ходзяць у паходы. Дзеці робяць буданы, гуляюць не з фабрычнымі цацкамі, а з прыродным матэрыялам – шышкамі, лістотай, палачкамі, глінай.




Фота pinterest.ru

У чатыры гады дзеці бацькоў-замежнікаў павінны здаць тэставанне на веданне нямецкай мовы. Калі не здадуць – зноў вучацца.

### Вы замежнік? Паклапаціцеся, каб дзіця ведала нямецкую мову

У школу ў Германіі дзеці звычайна ідуць у шэсць гадоў. Апошні год у садку з імі праводзяць заняткі, якія рыхтуюць дзіця да школы. Часам такія заняткі ладзяць у школе, дзе будзе вучыцца дзіця. Так дашкольнікі прывыкаюць да новай абстаноўкі і адчуваюць не такі стрэс з пачаткам вучобы.

У якасці падрыхтоўкі да школы дзіця бацькоў-замежнікаў можа прайсці курсы нямецкай мовы, каб не адставаць у школе ад сваіх аднагодкаў з нямецкамоўных сямей. Пачынаючы ад 2002 года вывучэнне нямецкай мовы ўвайшло ў праграму многіх садкоў у Германіі.

У чатыры гады дзіця бацькоў-мігрантаў праходзіць тэставанне па нямецкай мове. Калі тэставанне не праходзіць, бясплатныя заняткі наведваюць зноў.

### Спакойныя адносіны да капрызаў

Жыхарка Валожыншчыны **Алена Крэйніс**, наведваючы Германію, заўважыла, што бацькі ў Германіі вельмі спакойна ставяцца да дзіцячых капрызаў. Яна прыгадала, што не раз заўважала, як у бары ці кавярні дзеці маглі хныкаць, моршчыцца да яркага святла і гучнай музыкі. А бацькі спакойна адпачывалі.

Цікавы падыход у некаторых бацькоў да загартоўвання дзяцей, кажа Алена.

– Бачыла, як на калядным кірмашы ў снежні, калі тэмпература была каля нуля і ішоў то снег, то дождж, дзіця везлі ў вазку ў камбінезоне, без шапкі, і нават босага. Такая карцінка вельмі ўрэзалася ў памяць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ПАМІЖ КАМУНІСТАМІ І ФАШЫСТАМІ

# «Садралі пазногцi і павыдзіралі валасы»

## Якім было жыццё ў міжваенны час у ваколіцах Веркаўлянаў. Частка 1

**На невялікай тэрыторыі за некалькі год разыграліся трагічныя і крывавыя падзеі. Мясцовыя жыхары, якія спадзяваліся на простае звычайнае жыццё, апынуліся ўцягнутымі ў змаганне за жыццё. Спачатку змагаліся з Саветамі, пасля з фашыстамі і партызанамі, а пасля зноў з камуністамі. Пра гэтыя падзеі расказвае мясцовая жыхарка.**



Тамара Васілеўна Сянько (Кулеш).

ВІЛЕЙКА

Вёска Веркаўляны Хаценчыцкага сельсавета цяпер налічвае чатыры падворкі. Месціцца акурат паміж невялікіх дзвюх вёсачак Шашокі і Бацюжына. Стаяць Веркаўляны на ўзвышшы і крыху воддаль ад жвіровай дарогі. Вакол паселішча спрадвеку і яшчэ пару дзясяткаў гадоў таму яшчэ засявалі збажыной палеткі, садзілі на іх бульбу і лён. Цяпер тут гаспадарыць дзікая расліннасць. Алея векавых ліп і таполяў, скручаны старадаўні сад, журавель каля ручая, які цудам захаваўся. Здаецца, што нават само паветра тут наскрозь прапізанае гісторыяй.

Я рушыў да аднаго з дагледжаных дамоў. На шчасце, тут жывуць не прыезджыя дачнікі. Тут жыве гаспадыня **Тамара Васілеўна Сянько**, а сам будынак – яе бацькоўскі дом. Тамара Васілеўна нарадзілася ў 1933 годзе пры Польшчы, адчувае сябе добра і ўсё памятае, таму пагадзілася расказаць пра лёс свой і сваіх блізкіх.

Яе дзявочае прозвішча Кулеш, нарадзілася ў вёсцы Куляшы, што за сем вёрст ад Веркаўлянаў. Большасць жыхароў насілі прозвішча Кулеш, ад чаго і пайшла назва вёскі.

### Заможная гаспадарка і восем дзяцей

Сям'я Тамары Васілеўны была шматдзетнай і самай заможнай сярод сялянства. Яе дзед Якаў Кулеш з братам Адамам у 19 стагоддзі ў Куляшах валодалі сумеснай спадчынай – 20-гектарным кавалкам зямлі, у тым ліку двума гектарамі лесу. Адама не вельмі цягнула да зямлі. Таму ён у 1917 годзе пасля ўзброенага перавароту ў Расіі, прадаўшы сваю долю зямлі брату Якаву, з сям'ёй паехаў па «лёгкі» хлеб на Поўнач ужо бальшавіцкай Расіі. Сувязь з ім абарвалася назаўжды.

З удвая павялічанай гаспадаркай старому Якаву было ўжо не пад сілу спраўляцца, таму перадаў усю зямлю адзінаму сыну Васілю. У Якава былі яшчэ дзве дачкі, Сцепаніда і Настасся, але ў той час зямлю ў спадчыну перадавалі толькі мужчынскай палове. У Васіля сям'я разрасталася, і да 1933 года бацькі мелі васьмярых дзетак – Марыю (1907 г.н.), Аляксандра (1910), Алену (1912), Мікалая (1915), Канстанціна (1919), Клаўдзію (1923), Соф'ю (1925) і Тамару 1933 года нараджэння.

Васіль Якаўлевіч, бацька нашай суразмоўцы, нарадзіўся ў 1882 годзе. Быў вельмі моцным, працавітым, кемлівым і руплівым гаспадаром. Усё размяркоўвалі так, каб кожны займаўся менавіта тым, у чым меў большыя здольнасці. Гаспадарка ніколі не была ў заняпадзе. У гаспадарцы мелі трайную конскую цягу, усе неабходныя прылады. Апошнім часам Васіль набыў у Вільні нават конскую касілку, жняярку ды малатарню.

Каб пракарміць такую вялікую сям'ю, жыўнасці трымалі нямала. Тры каровы, цялушкі, парсюкі, авечкі, куры, гусі, індыкі.

### Знайшоў нявестку ў царкоўным хоры

Куляшы ўмелі не толькі працаваць, але і адпачываць. Васіль знаходзіў час, каб папрыслужваць у Хаценчыцкай царкве. Там часта ладзілі розныя фэсты, куды з'язджаліся вернікі з усёй акругі. Падобных урачыстасцяў не мінала і вядомая далёка за межамі наваколля сям'я цесляроў з Пляшчанаў, Сямёна Карповіча.

Неяк аднойчы ў Хаценчыцах на фэсце Сямён Карповіч заўважыў вельмі прыгожую маладзіцу, якая спявала ў царкоўным хоры. Пацікавіўся ў сябра Васіля з Куляшоў, хто такая і з чыіх будзе? Васіль з усмешкай спытаў: «А што ты так цікавішся, стары хрыч, на маладых пацягнула, ці што?». А той у адказ: «Ды не балбачы пустога! Яна мне як нявестка прыглянулася вельмі. Спявае цудоўна, думаецца, што і да працы не менш здольная». Васіль і кажа: «Дык гэта ж мая дачушка старэйшая, Марылечка». – «А колькі ж іх у цябе?» – «Не хвалюйся, на ўсіх жаніхоў пляшчанскіх хопіць!»

Сямён і заяўляе: «Ну калі такі выбар вялікі, праз тыдзень сватоў чакай. Каб дочкі твае ў дзеўках не заседзеліся, Івана свайго сватаць прывязу. Гэта, канешне, калі згодны прыняць гасцей, каб парадніцца?» – «Ну, а чаму б і не? Прыязджайце!»

### Сваты

Праз тыдзень Сямён Карповіч прывёз свайго сына Івана ў сваты да дачкі Васіля Куляша, Марылькі. Сватаўство было па усіх мясцовых традыцыях. Калі дайшла справа да агледзінаў, то на выбар маладому замест адной маці завяла ў святліцу ажно трох прыбраных дачок, якія ўжо былі на выданні. Для сватоў такі паварот быў прыемнай нечаканасцю. Але выбар усё ж выпаў на Марыю.

Пасля вяселля Марыя, забраўшы пасаг, пераехала ў Пляшчаны да Івана. Вось так, з вялікай радасцю і надзеяй на лепшую будучыню, у 1927 годзе парадніліся дзве працавітыя сялянскія сям'і. Маладыя абзаводзіліся дзеткамі – Аляксандар знайшоўся ў 1928-м, Зінаіда – у 1929-м, Яўгенія – у 1934-м. З двухбаковай дапамогай пабудаваліся, абзавяліся гаспадаркай. Іван з Марыяй былі вельмі ўдзячны бацькам за дапамогу і таксама іх ніколі не цураліся. Калі бацькам трэба было ў чым-небудзь падсобіць, то маладыя свае справы пакідалі на пасля і ішлі на дапамогу родным.

Жылі без сямейных спрэчак, у каханні, марылі і спадзяваліся на лепшую будучыню сваю і сваіх нашчадкаў. Але верасень 1939 года ўнёс свае карэкціроўкі ў іх асабістае жыццё і жыццё ўсёй Заходняй Беларусі.

Па законах новай савецкай народнай улады, калі ў кагосьці з сялян было 10 гектараў зямлі, тыя лічыліся кулакамі і падлягалі раскулачванню. У бацькі Марыі Васіля Куляша было 20 гектараў. Таму ён трапіў пад першачарговае раскулачванне, а ўся сям'я – пад дэпартацыю ў Сібір. Амаль два гады кожную ноч чакалі «чорнага крумкача», але няшчасце ўсё ж абмінула. Магчыма, дапамагло яшчэ і тое, што брат Тамары Васілеўны, Канстанцін, у 1940 годзе пайшоў добраахвотнікам служыць у Чырвоную Армію.

За ўвесь даваенны час, акрамя экспрапрыяцыі дзвюх кароў і абкладання вялізнымі падаткамі ў выглядзе харчразвёрсткі, ніякіх патрабаванняў да сям'і ад саветаў не было. Уся 20-гектарная зямля хоць і не была ва ўласнасці Куляшоў, але заставалася ў іх карыстанні.

Вайна прынесла самыя страшныя выпрабаванні для ўсіх без выключэння. Кожны не так пра сябе, як больш пра дзяцей ды родных хваляваўся, перажываў, што без яго згінуць.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

### 18 СТУДЗЕНЯ

**1912.** Нарадзіўся Пётра Сыч (в. Батурына, цяпер Вілейскі раён), пісьменнік, аўтар аповесці «Смерць і салаўі» пра бітву пад Монтэ-Касіна, публіцыст, вязень савецкіх канцлагераў, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Германіі.

**1884.** Нарадзіўся **Адам Лісоўскі** (в. Каранды, цяпер Смаргонскі раён), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, адзін з заснавальнікаў хрысціянскага руху. Выступаў за беларусізацыю каталіцкага касцёла ў Беларусі. Адыграў вялікую ролю ў лёсе ксяндза Адама Станкевіча і яго беларускай нацыянальнай свядомасці. Памёр у 1929 годзе ў Варшаве.

**1895.** Нарадзіўся **Лявон Більдзюкевіч** (мястэчка Івянец, цяпер Валожынскі раён), педагог, матэматык, грамадскі дзеяч. 15.8.1939 асуджаны на пяць гадоў папраўча-працоўных лагераў. Паводле афіцыйных звестак, памёр на Калыме. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

### 19 СТУДЗЕНЯ

**1926.** Нарадзіўся **Віктар Сянкевіч** (в. Гірстуны, цяпер Глыбоцкі раён), грамадскі дзеяч, гісторык, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Іспаніі, Вялікабрытаніі і ЗША. Падчас Другой сусветнай вайны трапіў у Германію, а потым у Францыю, дзе ўдзельнічаў у руху Супраціўлення. Затым як ураджэнец ІІ Рэчы Паспалітай быў пераведзены амерыканцамі ў Італію, уключаны ў Польскі корпус генерала Андэрса. Быў таксама адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Супрацоўнічаў з Радыё «Свабода». Разам з К.Акулам быў аўтарам большасці артыкулаў у ваенна-гістарычным часопісе «Зважай!», які выдаваўся ў канадскім горадзе Таронта. Цяпер на пенсіі. Жыве ў ЗША.

**1944.** 75 гадоў таму каля Беластока польскімі падпольшчыкамі жорстка закатаваны **Мікола Чарнецкі**, публіцыст, педагог, грамадскі дзеяч.

### 23 СТУДЗЕНЯ

**1884.** 135 гадоў з дня нараджэння **Францішка Будзькі** (в. Вознаўшчына, цяпер Вілейскі раён), каталіцкага святара.

**1889.** 130 гадоў назад у Чылі памёр **Ігнат Дамейка**, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, філамат, геолаг, мінеролаг, нацыянальны герой Чылі.

### 24 СТУДЗЕНЯ

**1904.** 115 гадоў з дня нараджэння **Янкі Шутовіча** (в. Шутавічы, цяпер Смаргонскі раён), грамадска-культурнага дзеяча, выдаўца, літаратуразнаўца, вязня савецкіх канцлагераў.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# У Мінску ўзнагародзілі самых яскравых актывістаў 2018 года

## Сярод іх жыхары Маладзечна і Вілейшчыны

**У іх шэраг патрапілі пераможцы нашай традыцыйнай акцыі «Асоба года».**




Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Узнагароду «Зрабілі» Алегу Куралесаву (злева) з Вілейшчыны ўручае галоўны рэдактар «РГ» Аляксандр Манцэвіч і журналіст Зоя Хруцкая.

Узнагароду зладзілі ў межах сумеснага праекта Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый і выданняў Vitebsk4.me, «Бінокль» і «Рэгіянальная газета». 12 студзеня ў сталіцы з'ехаліся людзі, дзякуючы якім летась адбылася яркая падзея ці якія запалілі ініцыятыву або запусцілі праект.

Гэта людзі, якіх мы павінны ведаць. Хаця б таму, што менавіта яны змяняюць наш сённяшні дзень да лепшага. І асабліва ўсцешна было чуць, што сярод іх так шмат герояў «Рэгіянальнай газеты».

Ініцыятывы падзялілі па намінацыях. Пераможцаў не вызначалі – вартыя падзякі ўсе. Зрэшты, для гэтага ўрачыстасць і існуе – не каб змагацца, чыя справа важней, а каб расказаць пра кожную і проста падзякаваць тым, хто гатовы працаваць на сваю ідэю.

**«Падзея года»**

Тут адзначылі самыя яскравыя падзейныя моманты 2018 года. Тыя падзеі, якія зрабілі год менавіта такім, якім ён запомніцца.

«Планетарый» – міжнародны фестываль экалагічнага кіно.

«На тваім баку» – міжнародны фестываль пра матывацыю і юрыдычныя аспекты валанцёрства.

Збор камянёў для рэканструкцыі Крэўскага замка. Дзякуючы актывістам за два дні сабралі грошы на 100 тон камянёў.

Generation «Ў» – адукацыйны моладзевы фестываль.

«Крэатон» – сустрэча для прадстаўнікоў рэкламнай індустрыі.

Спектакль «Час сэканд-хэнд», які паставіў **Мінскі абласны драмтэатр**. Калектыў тэатра «РГ» адзначыла як «Учынак года-2018».

Дзень Волі «БНР 100». Летась Дзень Волі ўпершыню за многія гады афіцыйна дазволілі святкаваць.

**Намінацыя «Канал у сацыяльных сетках»**

Тут адзначылі тыя суполкі або каналы, дзе найлепш распавядаюць пра мясцовае супольніцтва.

«Дама, удобная в быту» – інфармацыйная кампанія супраць няроўнасці жанчын.

«Target-99» – рух для тых, хто імкнецца навучыцца сартаваць 99% адходаў.

Active.molodechno – блог пра Маладзечна. Яго вядзе **Валянціна Сідоркіна**, якая расказвае пра важныя і значныя падзеі і магчымасці горада.

«Твае магчымасці» – тэлеграм-канал для валанцёраў.

«Не благодари» – канал пра валанцёрства і міжнародныя праграмы.

«Мае Чашнікі» – грамадская кампанія, якая расказвае пра падзеі і праблемы Чашнікаў.

**Намінацыя «Нізавыя ініцыятывы»**

Іх апынулася так шмат, што намінацыю падзялілі на дзве часткі. Тут адзначылі тыя актыўнасці, якія змаглі ўвасобіць свае задумы без падтрымкі.

Свята «Гарбузы і слімакі Новага Поля», якое зладзілі ў Мінскім раёне.

Свята двара і добраўпарадкаванне мікраёна ў Бабруйску.

«Супольнасць суседзяў на Аладавых». У Мінскім раёне Дамброўка правялі суботнік і зладзілі футбольную пляцоўку.

Новая дарога ў вёсцы Дзічкі. Уладкавалі дарогу, якую чакалі 25 год.

Мясцовая ініцыятыва «СВАЕ» ў Жодзіне. Стварылі пляцоўку для сустрэч у сваім двары.

Вёска Вераскі Барысаўскага раёна. Уладкавалі месца для працы аўталаўкі.

«ІніцыЯ+Тыва» з Верхнядзвінска. Мясцовыя правялі прыборку тэрыторыі ля возера, паставілі альтанку, пасадзілі дрэвы і ўладкавалі на вадзе домік для птушак.

«Двор маёй мары» з Шаркаўшчыны. У двары зладзілі дзіцячую пляцоўку, правялі суботнік і свята двара.

Бацькі залілі каток у Гомелі. 25 на 15 метраў яго памер, а месціцца на адкрытай пляцоўцы.

У вёсцы Вугляны імкнуцца захаваць і адрэстаўраваць унікальныя крыжы-абярэгі каля Белавежскай пушчы.

Дзяніс Тушынскі змагаецца за захаванне зялёных зон у Фрунзенскім раёне Мінска.

Ініцыятыва «Кабылякі. Расстраляныя ў Оршы» захоўвае памяць пра ахвяр сталінскіх рэпрэсій, расстраляных на Кабыляцкай гары.

«Валанцёрскае ратаванне вайсковых могілак» у Мінску.

**Вуліцу стрыт-фуда** ў Маладзечне арганізавалі на месцы былога міні-рынку. Цяпер тут паўстае пляцоўка для творчых людзей і прыемных сустрэч.

**Іван Дурэйка** і **Міхаіл Міхалевіч** заўважылі, што ўнікальныя дрэвы пачало сохнуць. Гэта вяз у Верхніх Талуях на Маладзечаншчыне. Дзякуючы іх настойлівасці на месцы расчысцілі сажалку і добраўпарадкавалі тэрыторыю.

**Алег Куралесаў** з Навасадаў Вілейскага раёна заснаваў сядзібу, дзе ў адзіночку спрабуе ажывіць вёску і стварае творчую пляцоўку.

**Віталь Качаткоў** з Маладзечна стварыў паспяховы бізнес і займаецца рознымі накірункамі. Піша музыку і спявае песні, вучыць шахматам дзяцей і дарослых, выдае кнігі шахматных задач.

**Намінацыя «Штуршок»**

Тут уганароўвалі тыя актыўнасці, якія натхнілі іншых на штосьці падобнае.

«Умовы для мовы» – кампанія па абароне моўных правоў у Беларусі.

«Лёгкія чытанні» ў Пружанах – літаратурныя сустрэчы для дзяцей на беларускай мове.

Будаўніцтва велагаража «Салянка». Мэта актывістаў – паставіць велагаражы ў кожным двары сталіцы.

ZERRO – магазін без упакоўкі. Тут няма аднаразовых пакетаў, толькі мяшкі і сумкі шматразовага карыстання, а таксама рэчы, якія раскладаюцца без шкоды для прыроды.

«Зялёны ўніверсітэт» – ініцыятыва па навучанні экалагічнаму ладу жыцця для студэнтаў.

BCool – ініцыятыва, якая дапамагае зрабіць офіс больш экалагічным.

«Деловой велосипед» – фотаконкурс для супрацоўнікаў, якія ездзяць на працу на роварах.

Doika – модуль для прыёму ахвяраванняў. Гэта дазваляе грамадскім арганізацыям збіраць сродкі на сваіх сайтах без пасярэднікаў.

**Намінацыя «Крэатыўнае рашэнне праблемы»**

«Зялёны горад для усіх» – праект, накіраваны на адаптацыю горада для людзей з асаблівасцямі зроку, а таксама экалагічная адукацыя для іх.

Гід-комікс «Серабранка» – іміджавы праект спальнага раёна.

«Легалайз Беларусь» – інфармацыйная кампанія па дэкрыміналізацыі псіхаактыўных рэчываў.

Культурны цэнтр «Культыватар» ладзіць крэатыўныя мерапрыемствы ў Лынтупах.

Інтэрактыўная турыстычная карта Брэста.

Квір-каляндар – каляндар на 2018 год з важнымі ЛГБТК-датамі. Стварылі ў межах кампаніі супраць гамафобіі.

Прыпеўкі пра пасіўную агрэсію.

Draw for dogs – праект, які аб'ядноўвае ілюстратараў і людзей, якія хочуць дапамагчы прытулку для сабак.

**Намінацыя «Праект ці ідэя, якую варта мультыплікаваць»**

Гэта тое, чым можна натхніцца і ўвасобіць у сваёй мясцовасці.

Unicornference – канферэнцыі па фінансавай устойлівасці недзяржаўных арганізацый.

UNIcard – праект, які створыць ільготны і скідачныя магчымасці для студэнтаў.

«ЭКАфітнес» – бяспечныя трэніроўкі для ўсёй сям'і. У гэтым цэнтры ёсць магчымасць займацца людзям з інваліднасцю.

«Цэнтр актыўнага доўгажыхарства» – прастора для людзей сталага веку, дзе можна вучыцца і знаходзіць сяброў.

**Аддзел інфармацыі.**

Больш фота – **на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/zrabili**



# Ці павінны разумець беларускую мову на пошце?

## Наш чытач дамогся адказу ад міністра юстыцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Непрыемнае здарэнне адбылося напрыканцы вясны 2018 года ў адным з аддзяленняў сувязі рэгіёна. Я адпраўляў бандэроль у Мінск і адрасы атрымальніка і свой напісаў па-беларуску. Работнік пошты такое афармленне не прыняла і запатрабавала, каб пераклаў адрасы на рускую мову.**




Можна пачаць вучыць беларускія словы з адпаведнай навалкай. Ці набыць беларускамоўны каляндар.

Яна сказала, што беларускую мову не ведае, таму не зможа перакласці назву «Пераможцаў», і рабочы камп'ютар таксама не перакладае.

Я лічу, што такая сітуацыя абсалютна непрымальная.

**Як работнік дзяржаўнай установы можа не ведаць дзяржаўнай мовы? І чаму яе тэхнічнае абсталяванне не працуе з беларускай мовай? Для мяне гэта дыскрымінацыя, а беларуская мова – гэта святое. І мірыцца з гэтым я не стаў.**

Агульнымі намаганнямі мы дасягнулі нядрэнных вынікаў па абароне правоў беларускамоўных грамадзян у паштовай сістэме. Пасля таго выпадку я звяртаўся са скаргай на дзеянні паштаркі ў вышэйстаячыя арганізацыі, «Рэгіянальную газету». У верасні звярнуўся да старшыні Таварыства беларускай мовы дэпутата Палаты прадстаўнікоў **Алены Анісім**. У снежні яна даслала адказ Міністэрства юстыцыі, які тычыцца гэтага звароту.

Член Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Алена Анісім звярнулася з гэтым пытаннем да прэм'ер-міністра **Сяргея Румаса**. Яна адзначыла, што праблемы карыстання беларускай мовай у сістэме «Белпошты» ўзніклі на падставе пастановы №72 ад 16 лістапада 2017 года. Пастанову аб зацвярджэнні кваліфікацыйнага даведніка «Пасады служачых, занятых прапановамі паслуг у галіне тэлекамунікацый і паштовай дзейнасці» прыняло Міністэрства працы.

Пастанова не адпавядае Канстытуцыі, што прыводзіць да парушэння правоў грамадзян, адзначыла Анісім. Таму дэпутат прапанавала прывесці юрыдычныя дакументы ў адпаведнасць з Канстытуцыяй для забеспячэння права беспераашкодна карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

### Распрацавалі план, як пашырыць мову

Дэпутат атрымала адказ ад Міністэрства юстыцыі. Друкуем вытрымкі адказу:

**«Артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь замацаваны роўны прававы статус абедзвюх дзяржаўных моў – беларускай і рускай.**

Згодна з артыкулам 2 Закона Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 года «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

З улікам роўнасці прававога статуса моў, у заканадаўстве не ўтрымліваецца нормаў аб абавязковасці прыняцця нарматыўных прававых актаў на адной ці другой з дзвюх дзяржаўных моў. Абавязацельстваў прымаць усе нарматыўныя прававыя акты на абедзвюх дзяржаўных мовах у заканадаўстве таксама не існуе.

Згодна з часткай другой артыкула 54 Закона «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь», нарматыўны прававы акт прымаецца (выдаецца) упаўнаважаным на тое органам (службовай асобай) на беларускай і (або) рускай мовах.

У дачыненні да пытання аб выкарыстанні беларускай мовы ў рабоце РУП «Белпошта» Міністэрства сувязі і інфарматызацыі паведаміла, што для недапушчэння ў далейшай працы сітуацый, выкладзеных у звароце грамадзяніна Раткевіча А. А., РУП «Белпошта» праведзена тлумачальная работа з працаўнікамі аб'ектаў паштовай сувязі.

РУП «Белпошта» і РУП «Белтэлекам» даручана прапрацаваць магчымасць ажыццяўлення службамі тэхнічнай падтрымкі, даведачна-інфармацыйнымі службамі адказаў на беларускай мове на беларускамоўныя звароты грамадзян.

**Напрыклад, у рамках выкання пратакола РУП «Белпошта» распрацаваны і 19 ліпеня 2018 года зацверджаны План работы па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ва ўзаемадзеянні з карыстальнікамі паслуг паштовай сувязі.**

Планам прадугледжаны мерапрыемствы, скіраваныя на граматнае вядзенне дыялогу працаўнікамі аб'ектаў паштовай сувязі і даведачна-інфармацыйнай службы РУП «Белпошта» з карыстальнікамі паслуг, якія звярнуліся за атрыманнем паслуг і інфармацыі на беларускай мове, а таксама мерапрыемствы па забеспячэнні належнай якасці аказання паслуг беларускамоўным карыстальнікам.

Акрамя таго, Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі выдадзены загад аб неабходнасці распрацоўкі РУП «Белпошта» і РУП «Белтэлекам» патрабаванняў для даведачна-інфармацыйных службаў, сэрвісных цэнтраў, аддзяленняў паштовай сувязі пры абслугоўванні беларускамоўных карыстальнікаў паслуг сувязі і заключэнні дагавораў па аказанні паслуг сувязі на беларускай мове. У адпаведнасці з загадам, іншым аператарам паштовай сувязі і электрасувязі рэкамендавана распрацоўка вышэйзгаданых патрабаванняў».

### А ці павінны паштары ведаць мову

Адказ на пытанне, ці павінны кіраўнікі аддзяленняў паштовай сувязі валодаць беларускай мовай, узяло на сябе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

Кваліфікацыйная характарыстыка кожнай пасады мае тры раздзелы: «Службовыя абавязкі», «Павінны ведаць», «Кваліфікацыйныя патрабаванні». Наймальнік мае права ў службовай інструкцыі прадугледжваць дадатковыя патрабаванні да абавязкаў, ведаў і кваліфікацыі работніка з улікам спецыфікі працоўнай функцыі.

**Калі службовыя абавязкі служачага патрабуюць пастаяннага прымянення ў працы рускай і беларускай моў, наймальнік мае права ўстанавіць для работніка дадатковыя патрабаванні да ведаў беларускай мовы.**

**Алесь РАТКЕВІЧ**, Чысць.

# «Дынама-Маладзечна» абыграла «U20»

МАЛАДЗЕЧНА

**У гульні Экстралігі «А» з моладзевай зборнай Беларусі, што адбылася 12 студзеня, зубры перамаглі з лікам 2:5.**

Гульня адбылася ў мінскай Чыжоўцы-арэне. Шайбы з боку маладзечанцаў забілі **Гарошка**, **Журня**, **Сакалоўскі**, **Кучкін** і **Бялевіч**.

Трэнер «Дынама-Маладзечна» **Ігар Шлыкаў** падсумаваў вынікі матча супраць «U20»:

– За кошт дасведчаных гульцоў і рэалізацыі ўдалося атрымаць вікторыю. Былі мацнейшыя і перамаглі, – перадае афіцыйны сайт федэрацыі хакея.

Вынікі матча абмеркаваў нападаючы **Антон Мохараў** з карэспандэнтам «БХ».

**– Гэта была ваша двухсотая гульня ў складзе «Дынама-Маладзечна». Можа, на яе неяк па-асабліваму настройваліся?**

– Ды не, нават не ведаў пра гэта. Дзякуй, што расказалі, гэта прыемна. Настройваліся, як звычайна, можа, крыху больш сур'ёзна, таму што згулялі добрыя матчы з лідарамі чэмпіянату і нельга было расслабляцца, трэба трымаць марку, вось і імкнуліся выйграць.

**– За кошт чаго атрымалася перайграць моладзевую зборную?**

**– Добра рэалізавалі свае моманты, а пасля забілі яшчэ адзін хуткі гол у бальшыні. Можа, за кошт гэтага перахапілі ініцыятыву. Пачалі ж не вельмі добра.**

**– Вы ўвесь паядынак дзейнічалі ў тры звяны. Цяжка было?**

– Не, ужо даводзілася працаваць у тры звяны, калі былі важныя матчы. Мы ж рыхтуемся, усе ў добрай фізічнай форме, так што ўсё нармальна было.

**– Наколькі задаволеныя дзеяннямі вашай пары абароны?**

– У гэтым матчы, у прынцыпе, усе гулялі добра, хаця і былі памылкі.




Скрыншот з відэа прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».

Момант гульні з моладзевай зборнай «U20».

**– Чаго чакаеце ад матчаў з «Лідай» і «Нёманам»?**

– Настройваемся на перамогу, таму што «Ліда» – сур'ёзны сапернік, дома ў іх даводзіцца цяжка. Ведаем, што лёгкіх матчаў не будзе. «Нёман» таксама лідар чэмпіянату, таму настройваемся на добрую гульню, на барацьбу.

**Паводле старонкі хакея Беларусі belarushockey.com.**

---

## У Вязынцы зладзяць аматарскую гонку бягом ці на ровары

Гонка «Зіма мінус 100» пройдзе 19-20 снежня ля музея Янкі Купалы.

Арганізатар гонак – спартыўна-масавая ўстанова «Федэрацыя прыгодніцкіх гонак». Маршрут пройдзе на тэрыторыі Маладзечанскага і Мінскага раёнаў. Старт будзе на тэрыторыі музея Янкі Купалы.

Арганізатары забяспечваюць піццём і перакусам. На фінішы ўдзельнікі атрымаюць памятны медаль-магніт.

Удзельнікі выбіраюць сабе гонку. «Велагонка 100» – кантрольны час 22,5 гадзіны, даўжыня дыстанцыі – сто кіламетраў. «Трэйл 100» – бегавая гонка з кантрольным часам на 24 гадзіны, даўжыня дыстанцыі – сто кіламетраў.

«Трэйл 50» – бегавая гонка з кантрольным часам 9,5 гадзіны, даўжынёй дыстанцыі 50 кіламетраў.

Летась падчас спаборніцтваў былі складаныя ўмовы надвор'я. Час лідара велагонкі на 100 кіламетраў склаў дзевяць гадзін 40 хвілін. Час лідара трэйла на 100 кіламетраў склаў 16 гадзін 11 хвілін. Адзіны ўдзельнік пераадолеў дыстанцыю на лыжах. Яго час – 23 гадзіны і 33 хвіліны. Бягун, які першы адолеў 50 кіламетраў, справіўся за пяць гадзін 48 хвілін.

Удзельнікі стартуюць з вызначаных пунктаў. Яны атрымліваюць прапанову маршруту – найбольш бяспечны і цікавы. Могуць рушыць і іншым шляхам. Але абавязкова павінны з'яўляцца на кантрольных пунктах. Іх да дзесяці штук. У сярэдзіне маршруту ўдзельнікаў чакае пункт гарачага харчавання.

Гледачы могуць прыехаць і падтрымаць спартсменаў. Заезд удзельнікаў пачнецца ў восем раніцы. Ад дзвюх пачнуцца старты.

**Аддзел інфармацыі.**

---

## Клуб «Дынама-Маладзечна» пакінуў капітан

МАЛАДЗЕЧНА

**15 студзеня па пагадненні бакоў з каманды сышоў абаронца Канстанцін Дурноў.**

У гэтым сезоне ён правёў за каманду 38 гульняў. Прынёс 15 ачкоў (1+14). Агульны паказчык карыснасці мае +8.

Клуб дзякуе Дурнову за супрацоўніцтва.

Ад 16 студзеня ў каманду дадаўся новы абаронца – 32-гадовы **Вадзім Сушко**. Ён пачынаў сезон у ХК «Шахцёр-Салігорск». Правёў 29 матчаў, зарабіў дзевяць ачкоў (1+8). Яго паказчык карыснасці +3.

Абодва хакеісты ў сваіх камандах былі капітанамі.

Перад гэтым каманду папоўніў абаронца 25-гадовы **Ілля Рак**. Ён пачынаў сезон у «Шахцёры». Там правёў 25 матчаў і зарабіў пяць ачкоў. Каэфіцыент карыснасці +4. У мінулым сезоне Рак гуляў за маладзечанскіх зуброў, дзе за 14 матчаў адзначыўся сямю баламі. Гуляе пад нумарам 90.

**Паводле прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**



Фота забяспечанае прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».

Канстанцін Дурноў.



Вадзім Сушко.



Ілля Рак.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Убранне, адзенне.
3. Цотная ці няцотнaя іх колькасць істотная толькі тады, калі іх менш за тузін.
4. Грамадская ці дзяржаўная арганізацыя, якая кіруе пэўнай галіной гаспадаркі, гандлю.
8. Унутраная частка машыны, прылады, апарата і пад., якая прыводзіць іх у дзеянне.
9. Мерапрыемствы, якія праводзяцца для таго, каб стварыць шырокую вядомасць.
11. Трэба яго пераадолець, каб патрапіць унутр.
13. Якуб Колас: «Ходзіць дзед белабароды Полем, лесам, пералескам, Засцілае рэчкі …, Брыльянцістым снежным блескам».
14. Установа, якая збірае, вывучае, зберагае і выстаўляе для агляду помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, а таксама прыродазнаўчыя калекцыі.
15. Салодкія стравы, садавіна, цукеркі і інш., якія падаюцца ў канцы абеду.
16. Монстр.
21. Раўнамернае чаргаванне элементаў.
22. Дарэшты, датла.
24. Старажытныя пісьмёны, якімі карысталіся пераважна скандынавы і якія захаваліся ў надпісах на камянях і іншых прадметах.
26. Пабочны, звычайна лёгкі заробак звыш асноўнага.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Калі марскія археолагі трапілі ў каюту судовага доктара на англійскім караблі, што затануў у 1545 годзе, то знайшлі гэты прадмет. Менавіта яго выкарыстоўвалі, калі мелі патрэбу ў анэстэзіі.
5. Творчы метад у літаратуры і мастацтве, які ставіць мэтай праўдзівае адлюстраванне аб'ектыўнай рэчаіснасці ў яе тыповых рысах.
6. Гэта дрэва спрадвеку асацыявалася са смерцю, таму што ім выцілалі апошні шлях нябожчыка. Але некалькі стагоддзяў таму яно стала галоўным сімвалам аднаго з самых яскравых святаў у свеце.
7. Канфуцый пісаў, што ў чалавека ёсць тры шляхі да разумных учынкаў. Першы, самы высакародны, – роздум. Другі, самы лёгкі, – перайманне. Трэці – самы горкі. Які?
10. Гаспадар залатой табакеркі з беларускай казкі.
11. Рост, развіццё.
12. Даўнейшы беларускі калядны абрад.
13. Назавіце прозвішча знакамітага амерыканскага пісьменніка, вядомага творамі пра залатую ліхарадку. Цікава, што прозвішча, пад якім мы яго ведаем, ён атрымаў ад айчыма. Яго маці зацяжарала ад астролага, які не хацеў дзяцей і настойваў на аборце. Жанчына прыйшла да спробы самазабойства і выстраліла ў сябе, але атрымала лёгкае раненне.
14. Тое, да чаго імкнуцца, чаго жадаюць дасягнуць.
17. Сталіца Балгарыі.
18. Доўгі час у цэнтры ўвагі скачак у Прэторыі быў конь, які пастаянна выйграваў усе прызы. Так было, пакуль яго зблізу не сфатаграфалі. Аказалася, што гэта зафарбаваная …
19. Амерыканскі мільянер Макай зрабіў сабе курыльны пакой, які каштаваў яму сто тысяч франкаў. Які матэрыял пайшоў у яго на абклейванне пакоя?
20. Аўтамат, які выконвае складаныя дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека.
23. Адмоўная велічыня.
25. Уціск у правах.

## Адказы на крыжаванку з №2

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Лазня. 2. Піва. 3. Відэлец. 7. Салдат. 8. Самавар. 9. Сена. 10. Пошта. 12. Дыктант. 13. Кефір. 15. Вера. 16. Латы. 17. Саксы. 18. Леча. 21. Лупіна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Ліманад. 3. Верлібр. 4. Бусел. 5. Смяяцца. 6. Дыялект. 8. Сякера. 11. Сонца. 12. Драпежнік. 14. Дзверы. 15. Вакзал. 17. Сігнал. 19. Чыгунка. 20. Вабіць. 22. Дэкальтэ.



УНП 600136804

## ● ГАРАСКОП 18-24 СТУДЗЕНЯ


**АВЕН.** Вы схільныя прытрымлівацца пастаўленай задачы, ніколі не збочваць і пераадольваць любыя перашкоды. Вас будуць напаўняць новыя ідэі і памкненні, іх трэба абавязкова рэалізоўваць.


**ЦЯЛЕЦ.** Пра рамантычныя захапленні трэба будзе забыцца і пагрузіцца ў працу, лепш з галавой, каб не лезлі ўсякія староннія думкі. Затое ўсе, што звязанае з канкрэтнай дзейнасцю, дакументамі, фінансавымі пытаннямі і гэтак далей, будзе прасоўвацца паспяхова.


**БЛІЗНЯТЫ.** Цяпер моцныя такія вашыя якасці, як магчымасць разумець іншых людзей без слоў, суперажываць ім і дапамагаць парадай.


**РАК.** Верагодна, вам трэба будзе прыняць важнае рашэнне. Часам патрабаванні іншых людзей (асабліва якія маюць больш паўнамоцтваў) могуць сур'ёзна супярэчыць вашым памкненням. Магчымы дэпрэсіўны стан, які будзе доўжыцца да таго часу, пакуль вы не знойдзеце ў сабе сілы зрабіць вырашальны крок. Пасля чаго ўсё пойдзе на лад.


**ЛЕЎ.** Актывуецца ваша падсвядомасць, што цягне за сабой павелічэнне творчай актыўнасці, а таксама здольнасць разумець навакольных людзей. Але каб з гэтага выйшла нешта станоўчае, вам спатрэбіцца прыкласці нямала намаганняў.


**ДЗЕВА.** Вам здаецца, што вы заўсёды ведзяце сябе справядліва і правільна ў дачыненні да іншых людзей, што вашы дзеянні маюць выразную і абгрунтаваную матывацыю, але гэта не так. Нярэдка вы дзейнічаеце, каб дагадзіць сваім жаданням, не думаючы пра іншых людзей. На гэтых днях вам прыйдзецца выпрабаваць гэта на сабе.


**ШАЛІ.** Вынік ад прынятых рашэнняў вы зможаце атрымаць пазней, але будзе ён добрым ці не, залежыць ад таго, як вы будзеце прымаць неабходныя рашэнні. Знайдзіце залатую сярэдзіну, ураўняйце ўсе супрацьлегласці. Каб дасягнуць раўнаважкага стану, неабходна прыйсці да гармоніі ўнутры сябе.


**СКАРПІЁН.** Спрыяльны перыяд для фінансавых рашэнняў. Добра цяпер прыдумваць ідэі для бізнесу. Значны ўплыў на ваша рашэнне будзе аказваць жанчына, старэйшая за вас або вышэйшая па статусе. Пераадолеўшы некаторыя перашкоды, перад вамі адкрыюцца цудоўныя перспектывы.


**СТРАЛЕЦ.** Наступіў момант, калі ўсё, што маглі, вы ўжо зрабілі, а цяпер трэба толькі чакаць, калі вынікі падаспеюць. У любых дзеяннях неабходна кіравацца логікай, душачы пры гэтым эмоцыі і пачуцці, бо яны ў вашым становішчы шкодныя і могуць прывесці да непрадказальных вынікаў.


**КАЗЯРОГ.** Цяпер усё ў вашых руках, і калі вы нешта задумалі, то смела дзейнічайце, не баючыся ніякіх перашкод і складанасцяў – у вас усё атрымаецца.


**ВАДАЛЕЙ.** Для зносін з іншымі людзьмі такія дні не падыходзяць, бо яны лёгка могуць вывесці вас з раўнавагі як у станоўчы, так і ў адмоўны бок. Прысвяціце час сабе.


**РЫБЫ.** Спрыяльны рамантычны перыяд. З'яўленне новай асобы ці іншага фактару ў вашым жыцці, усплёск эмоцый, пасля чаго вашы адносіны і асабістае жыццё пойдзе ўгору.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 7 | 6 | | | 4 | | | 8 |
| | 8 | 9 | | 1 | | | 4 | 7 |
| 1 | 4 | | 2 | | 7 | 9 | | |
| | 3 | | | | | | 6 | |
| 9 | 6 | | 3 | | 1 | | | |
| | 2 | 5 | | | | 4 | | |
| 8 | 9 | 1 | | | 3 | | | 1 |
| 4 | 1 | 7 | | | | 5 | | 9 |
| 6 | 5 | | 1 | 7 | | | 2 | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## Чытайце праз тыдзень

- У чацвертым нумары чакайце наш традыцыйны Каляндар садавода-агародніка. Сёлета ён будзе ў фірменным аранжавым колеры. Хочаце, каб ваша рэклама працавала ўвесь год? Тады звяртайцеся да нас па пытаннях размяшчэння на календары па нумарах (8-0176) 53-78-04, (8-029) 676-84-20, (8-029) 573-28-47.



● НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ

Мы працягваем публікаваць фотаздымкі ўдзельнікаў акцыі «Не губляй ніводнага дня». У межах гэтай акцыі чытачы дасылалі нам фота за 2018 год.

Пераможцаў акцыі мы ўжо ўзнагародзілі. Але хочам паказаць здымкі ўдзельнікаў.



Наша дружная сям'я. Фотаздымак даслала Вольга Малашка.



## 19 студзеня, субота

**Вецер:** заходні, 6-7 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -25,5°С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +7,9°С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,3 мм у 2007 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якую песню вы спявалі апошні раз?



**Данііл Савеня, вучань, Маладзечна:**

– Апошні раз я спяваў каля трох месяцаў таму песню Філіпа Кіркорава «Снег». Гэта было на юбілеі студыі «Спяваем разам!» Алены Атрашкевіч. У гэтай студыі я займаюся вакалам тры гады.



**Анастасія Чачуліна, намеснік дырэктара Дома культуры, Вілейка:**

– На сцэне не выступаю, але спяваць люблю. Голас ёсць. Апошні раз спявала ўчора, было дамашняе караоке. Люблю песню Ані Лорак «Сон», «Казкі» «Плакала», гурта «Назіма» «Бяжы».



**Дзяніс Буткевіч, выратавальнік, Вілейка:**

– На Стары Новы год спяваў «Погода в доме». У музычнай школе не вучыўся, самавучка. А любімая песня – «Сёння ў нашай хаце свята».



**Паліна Гамолка, тэрмаапрацоўшчык швейнай фабрыкі, Маладзечна:**

– Якраз учора спявала песню Вадзянога з мульціка «Лятучы карабель».



**Станіслаў Таспаеў, менеджар-эканаміст, фатограф, Мядзел:**

– Спяваю кожныя выхадныя, калі праводзяць мерапрыемствы на Нарачы ў здраўніцах. Хаця і голасу не маю. Люблю песню «Воіны святла».



**Маргарыта Кляўда, інструктар-метадыст фізкультурна-спартыўнага клуба, Астравец:**

– Апошні раз спявала на карпаратыве перад Новым годам. Выканала песню «Хто ты» гурта «Градусы».



**Іна Бажко, фельчар, Маладзечна:**

– Я не спяваю, няма голасу. Каб давялося, мармытала б песню Басты – «Сансара».

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№3 (1238) 18.01.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 91. Падпісана ў друк у 9.00 17.01.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.